# Малады Фронт імкнецца да перамогі

**У мінулую нядзелю адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскага «Маладога Фронту». Галоўным пытаньнем было абраньне старшыні гарадзкой арганізацыі. У выніку адкрытага галасаваньня, трэці год запар ім стаў Андрэй Мялешка.**

Нядзельная канферэнцыя вылучалася прадстаўнічасьцю. Вітаць сваіх гарадзенскіх сяброў і аднадумцаў прыехалі лідар «Маладога Фронту» Павал Севярынец, ягоны намесьнік Яўген Скочка ды кіраўнік прэсавай службы БНФ «Адраджэньне» Аляксей Шэін.

Да ацэнкі сваёй дзейнасьці ў 1999 годзе гарадзенскія маладафронтаўцы паставіліся досыць крытычна. У сваім выступе Андрэй Мялешка найперш адзначыў пэўную няўважлівасьць кіраўніцтва МФ да шэраговых сябраў арганізацыі. Разам з тым засмучае і практычная адсутнасьць ініцыятывы «зьнізу». Аднак, нягледзячы на гэтыя мінусы ды на звычайную для многіх моладзевых арганізацыяў беднасьць матэрыяльна-тэхнічнай базы, мінулы год і пачатак 2000 былі адзначаныя гучнымі акцыямі «Маладога Фронту».

Гэта актыўны ўдзел у масавых гарадзенскіх акцыях «Прашчай, прэзідэнт!» і антысаюзнай «вогненай» акцыі 24 лістапада. Гэта таксама II Алімпіяда «Маладога Фронту», купалаўскія чытаньні ды выданьне ўласнай газэты «Дзіда».

Актыўная праца працягвае весьціся «Маладым Фронтам» і па выкарчоўваньні з гарадзенскай зямлі рускай фашысцкай арганізацыі РНЕ.

За першыя паўтары месяцы 2000 года было праведзена пікетаваньне ў дзень памяці Кастуся Каліноўскага і цудоўная акцыя «Любоў ніколі не спыняецца!» на дзень Усіх Закаханых.

У мінулым годзе гарадзенскі «Малады Фронт» пазбавіўся баласту, правёў неабходнае прасейваньне сваіх шэрагаў, прыдбаў новых надзейных сябраў. Вылучылася і група відавочных лідараў, здольных плённа працаваць і павесьці за сабой актыўную гарадзенскую моладзь.

На думку Паўла Севярынца, моладзь, што ўваходзіць у «Малады Фронт»- гэта прадстаўнікі новага пакаленьня стваральнікаў, якое мае ўсе шанцы стаць выраšальным у пабудове новай Беларусі.

Гарадзенскі «Малады Фронт» працягвае зьбірацца шточацьвер а 19 гадзіне па адрасе: К.Маркса 11, першы паверх.

**Ул. інф.**

## Акругі нарэзаны, кандыдаты вызначаны

**Як стала вядома з неафіцыйных крыніцаў, гарадзенская «вертыкаль» шпарка рыхтуецца да маючых адбыцца ўвосень выбараў у парламент.**

Зроблена прыкладная прыкідка выбарчых акруг. Усяго ў вобласці іх будзе 13. За дэпутацкі мандат у абласным цэнтры паспрачаюцца прэтэндэнты ў трох акругах. Ужо вядзецца падбор магчымых кандыдатаў у дэпутаты, а таксама іх дублёраў. Працоўным калектывам улада мае намер «прапанаваць», напрыклад, для вылучэння старшыню Свіслацкага райвыканкама, цяперашняга «палатачніка» Анатоля Кузьму, гарадзенскага ўрача Аляксандра Ражко, начальніка абласной інспекцыі дзяржкантролю Марыю Пратапшчык, генерала Узброеных Сіл Валерыя Фралова.

**Уладзімір Кавалёў**




## Дзень Волі - 2000

**9 сакавіка ў Менгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне ў Менску дэманстрацыі, мітынгу і канцэрта 25 сакавіка 2000 года. Так апазіцыя рыхтуецца адзначыць 82-ю гадавіну абвяшчэння БНР. Заяўку падпісалі 87 чалавек — кіраўнікі найбуйнейшых апазіцыйных партый Беларусі, вядомыя грамадскія дзеячы. Сярод іх кіраўнікі БНФ — Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык, Юрый Хадыка, БСДП (НГ) — Мікалай Статкевіч, Віталь Малашка, Аляксей Кароль, АГП — Аляксандр Дабравольскі, Барыс Звозскаў, прадстаўнікі «Маладога фронта» ды іншыя.**

Акцыю плануецца пачаць на плошчы Якуба Коласа а 12-й гадзіне 25 сакавіка. Потым, з 12.30, адбудзецца шэсце па праезнай частцы праспекта Ф.Скарыны да сквера Янкі Купалы, дзе з 13.30 да 18 гадзін пройдзе мітынг і канцэрт. Запланаваная колькасць удзельнікаў — каля 30 тысяч чалавек, Асноўны лозунг акцыі — «Жыве незалежная, заможная, дэмакратычная еўрапейская Беларусь!». Прыватныя прадпрымальнікі прафсаюза «Садружнасць» таксама звярнуліся ў Менгарвыканкам за дазволам на правядзенне 25 сакавіка — падчас масавага святочнага мерапрыемства «Дзень Волі-2000» — кірмашу па продажу жыхарам сталіцы прадуктаў харчавання па зніжаных цэнах у скверы Янкі Купалы з 13.30 да 18.30. Колькасць удзельнікаў — 30 машын з бакалейнымі таварамі.

**Генадзь Барбарыч**

# Сямён Домаш: Швецыя хоча бачыць Беларусь дэмакратычнай

**Незалежныя беларускія газеты паведамілі ўжо аб візіце дэлегацыі прадстаўнікоў беларускай апазіцыі ў Швецыю. Сярод запрошаных быў старшыня Каардынацыйнага камітэта «Гарадзенская ініцыятыва», сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Домаш. Карэспандэнт ПАГОНІ звярнуўся да яго з просьбай пракаментаваць вынікі паездкі.**

- У Стакгольме мы знаходзіліся з 6 па 8 сакавіка па запрашэнні Шведскага інстытута. У склад нашай групы ўваходзілі міжнародны каардынатар Хартыі-97 Андрэй Саннікаў, прадстаўнік БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі Анатоль Лябедзька, віцэ-прэзідэнт Беларускага кангрэса незалежных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч, намеснік старшыні БСДП «Народная Грамада» Аляксей Кароль і прэзідэнт Беларускай Асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна.

**- Давайце адразу паставім кропкі над «і». Вы сказалі, што паездку арганізаваў Шведскі інстытут. Што гэта за ўстанова? У Беларусі абавязкова знойдуцца палітрукі ад палітыкі, якія будуць сцвярджаць пра чарговае наведванне «так званай апазіцыі» замежнага падрыўнога цэнтра...**

- Палітрукоў дастаткова і ў Гродне. Будуць казаць тое, што ім загадаюць. Шведскі інстытут - гэта дзяржаўная ўстанова, асноўнай задачай якой з'яўляецца распаўсюджванне ведаў пра Швецыю за межамі краіны і ажыццяўленне абмену ў галіне культуры, адукацыі, навукі і грамадскага жыцця. Фінансуецца дзяржавай. Бюджэт на бягучы год складае каля 140 мільёнаў шведскіх кронаў. Сродкаў хапае для прыёму гасцей. Спецыяльна акцэнтую на гэтым увагу, бо нашы «вертыкальныя» гора-ідэолагі любяць лямантаваць, убіўшыся на тэлеэкран, пра грошы, на якія раз'язджае апазіцыя. Маўляў, адкуль у беспрацоўных даляры на паездкі. Усе расходы, падкрэсліваю, бярэ на сябе ўстанова, якая запрашае.

***- Афіцыйны статус візіту сведчыць пра перамовы на вышэйшым узроўні. Якія шведскія арганізацыі спрычыніліся да сустрэчаў з беларускімі палітыкамі?***

- Найперш, Міністэрства замежных справаў з яго кіраўніком Ганнай Ліндх. Дэлегацыю прымаў віцэ-спікер парламента Андэрс Б'ёрк. Адбыліся канструктыўныя гутаркі з дырэктарам Шведскага інстытута Эрландам Рынгбаргам, дырэктарам дэпартамента па сувязях з Расеяй і краінамі СНД Шведскага міжнароднага агенцтва развіцця і супрацоўніцтва Андэрсам Хелундам і адказнай супрацоўніцай гэтай установы Эльзай Хастад, дырэктарам інфармацыйнага цэнтра імя Олафа Пальме панам Кейлам Албінам Абрахамсанам. Акрамя гэтага, адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў Швецыі, якія супрацоўнічаюць з Беларуссю. Надзвычай карысным быў абмен думкамі з лідарамі шведскіх палітычных партыяў.

***- У праграме паездкі значыцца наведванне шведскага парламента - рыксдага. Як дэпутату беларускага вышэйшага заканадаўчага органа, што найбольш запомнілася?***

- Мы мелі кантакт з сябрамі пастаяннага парламенцкага камітэта замежных справаў. Яны адказалі на ўсе нашы пытанні. Асабіста мяне ўразіў той факт, што шведская дэмакратыя бярэ пачатак з 1634 года, калі краіна атрымала свой першы Акт аб форме праўлення. Але да гэтага на працягу стагоддзя ўжо існаваў парламент, дзе былі прадстаўленыя ўсе чатыры саслоўі. Міжволі праводзіш гістарычныя паралелі...

У рыксдагу працуюць дэпутаты, абраныя насельніцтвам ад шэрагу партыяў - сацыял-дэмакратычная (131 чалавек), умераная кааліцыйная партыя (82), левая партыя (43), хрысціянскія дэмакраты (42), партыя цэнтра (18), народная партыя - ліберал (17), партыя «зялёных» (16). Усяго 349 дэпутатаў. Гэта на краіну з амаль 9-мільённым насельніцтвам. У Беларусі без малога 11 мільёнаў жыхароў, аднак кіраўніку дзяржавы падалося, што хопіць і 110 народных абраннікаў замест ранейшых 360. Менш людзей - лягчэй кантраляваць. Так і атрымаўся «кішэнны» паслухмяны парламент.

***- Справа, відаць, не ў колькасці дэпутатаў. Іх дзейнасць вымяраецца жыццёвым узроўнем народа. Ці зрабіў на Вас уражанне так званы шведскі сацыялізм?***



Сямён Домаш

- Мадэль сучаснага шведскага грамадства наогул выключае такое разуменне. Там ніколі нічога не было агульнага з былымі сацыялістычнымі дыктатурамі ні ў плане свабоды слова, ні ў плане правоў чалавека, ні ў іншых галінах, якія тычацца свабодаў грамадзянаў. Ніколі шведы не займаліся нацыяналізацыяй прадпрыемстваў, стварэннем калектыўных гаспадарак. Але там самы шырокі ў свеце сектар грамадскіх паслуг, якія прадастаўляе і фінансуе грамадства. Сярэдні заробак жыхара краіны ў 1997 годзе складаў штомесяц 17900 крон (1 шведская крона = 0,13 даляра ЗША ці 0,21 нямецкай маркі). Рабочы і служачы прыватнага сектару мелі адпаведна 15800 і 21000 тысячу крон. Беспрацоўе дасягае 10 працэнтаў. Аднак краіна застаецца адной з самых багатых у свеце.

***- Ці можна гаварыць пра канкрэтныя вынікі паездкі?***

- Дасягнуты наступныя дамоўленасці: цеснае супрацоўніцтва паміж шведскім рыксдагам і Вярхоўным Саветам Беларусі; агульныя намаганні па адкрыцці шведскай амбасады ў Менску; ажыццяўленне сумесных праграмаў беларускімі і шведскімі няўрадавымі грамадскімі арганізацыямі; падтрымка міжнароднай супольнасцю захадаў апазіцыі па далейшай дэмакратызацыі Беларусі. Ёсць і іншыя напрацоўкі.

**Гутарыў
Антон Лабовіч**

# Лукашэнку не ўдалося падмануць Захад

**Нягледзячы на пэўныя фармальныя змяненні, палажэнні Выбарчага Кодэкса не адпавядаюць міжнародным дэмакратычным стандартам. Такое сцвярджэнне ўтрымліваецца ў адмысловым дакуменце з ацэнкай беларускага Выбарчага кодэкса, падрыхтаваным кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ ў Беларусі.**

Прааналізаваўшы кодэкс, падпісаны 15 лютага А.Лукашэнкам, міжнародныя эксперты выказалі шмат крытычных заўваг. Зазначаецца, у прыватнасці, што Цэнтрвыбаркам складаецца з 12 чалавек, — шэсць прызначаюцца прэзідэнтам і шэсць выбіраюцца Саветам Рэспублікі, — прычым, кіраўнік дзяржавы прызначае старшыню камісіі. Такім чынам, «склад Цэнтральнай выбарчай камісіі не адпавядае патрабаванню незалежнасці гэтага інстытута як асноўнаму прынцыпу дзейнасці камісіі...».

Эксперты падкрэсліваюць, што плюралізм Цэнтрвыбаркама надзвычай важны, бо камісія з'яўляецца асноўным інстытутам, які стварае давер грамадзян да выбарчага працэсу. Істотныя заўвагі выказаны і па наступных раздзелах: грамадскае назіранне за выбарамі; доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі; фінансаванне выбарчай кампаніі; датэрміновае галасаванне; галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыка; вылучэнне кандыдатаў і рэгістрацыя палітычных партый і арганізацый; парог яўкі выбаршчыкаў для прызнання выбараў сапраўднымі; грамадскі заклік да байкоту выбараў і гэтак далей. Па кожным з гэтых раздзелаў эксперты прапаноўваюць свае рэкамендацыі. Напрыклад, знізіць парог яўкі выбаршчыкаў да 25 працэнтаў у першым туры і адмяніць яго наогул у другім.

А заключэнне міжнародных экспертаў наступнае: «Нягледзячы на некаторыя фармальныя і мінімальныя змяненні, палажэнні гэтага Выбарчага кодэкса не могуць адпавядаць міжнародным дэмакратычным стандартам — такім, як пункты 7 і 8 Капенгагенскага дакумента 1990 года. Апрача дэмакратычных змяненняў у Выбарчым кодэксе, усё яшчэ неабходна стварыць свабодныя і справядлівыя ўмовы, а таксама вызначыць парадак рэалізацыі заканадаўства».

**Уладзімір Глод**

# Біць ці не біць?..

**А.Лукашэнка лічыць, што гарадскім уладам не варта было б дазваляць апазіцыі праводзіць 15 сакавіка акцыю «Марш Свабоды-2». Пра гэта кіраўнік дзяржавы заявіў 14 сакавіка, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.**

Як вядома, аналагічная акцыя беларускай апазіцыі 17 кастрычніка летась закончылася масавымі сутыкненнямі з міліцыяй. Тады ў «Маршы Свабоды» ўзялі ўдзел звыш 20 тысяч чалавек. Па словах А.Лукашэнкі, 15 сакавіка ўсім стане зразумела, каму ў Беларусі патрэбны грамадска-палітычны дыялог, а каму не. Беларускі лідар лічыць, што арганізатары акцыі незадарма прызначылі яе пачатак на 18.00. Па яго словах, яны спадзяюцца наладзіць у цемры «бойню» і затым абвінавачваць прэзідэнта ў правакацыі.

А.Лукашэнка папярэдзіў удзельнікаў акцыі, што калі тыя зробяць «крок улева, крок управа ад закона», дык ад іх «шмацце толькі будзе ляцець». Падобныя акцыі пратэсту, сказаў кіраўнік дзяржавы, патрэбны апазіцыі для апраўдання патрачаных на яе сродкаў.

**Юрый Пацёмкін**

# Бюджэтны катаклізм

**На мінулым тыдні, нарэшце, быў апублікаваны аўтэнтычны тэкст Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2000 год». Зацверджаныя выдаткі на суму 1 611 853 609 тысяч рублёў, зыходзячы з прагназуемых даходаў на суму 1 493 358 252 тысячы рублёў; памер дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту не павінен быць большым за 118 495 357 тысяч рублёў.**

**Табліца N1**

| Від даходаў | У $ЗША па бюджэту-2000 | У $ЗША па бюджэту-1996 | У $ЗША па бюджэту-1999 |
|---|---|---|---|
| Даход рэспубліканскага бюджэту | 1 716 500 000 | 3 018 800 000 | 1 733 360 000 |
| Падаткі на даходы і прыбытак | 263 393 000 | 577 731 000 | 171 694 000 |
| Надзвычайны падатак | 71 003 400 | 299 946 000 | 70 701 200 |
| Акцызы | 261 775 860 | 345 464 200 | 353 424 000 |
| Падатак і зборы на аўтатранспартныя сродкі і за карыстанне аўтамабільнымі дарогамі | 5 291 380 | 3 909 710 | 1 917 000 |
| Даходы ад знешняга гандлю і знешнеэканамічных аперацыяў | 161 310 000 | 158 300 000 | 247 036 000 |
| Прыбытак Нацыянальнага банка Беларусі | 16 091 000 | 3 899 200 | 4 210 000 |
| Адміністрацыйныя зборы і плацяжы | 27 785 400 | 20 118 000 | 27 612 300 |
| Іншыя бягучыя непадатковыя даходы і абавязковыя плацяжы | 43 818 000 | (няма інфарм.) | 39 406 200 |
| Паступленні ад рэалізацыі дзяржаўных матэрыяльных рэзерваў і каштоўнасцяў | 34 104 200 | 41 736 000 | 19 394 100 |
| Даходы свабодных эканамічных зон | 981 490 | | 3 558 300 |
| Збор на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы | | 2 906 000 | |
| Даходы дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў | 318 968 900 | - | 231 856 600 |
| Іншыя віды даходаў | 27 776 770 | 797 947 700 | 42 902 000 |

## 1. Аб асаблівасцях Закона аб бюджэце-2000

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2000 год» быў прыняты са спазненнем больш чым на месяц на студзеньскай сесіі Палаты прадстаўнікоў і Савету Рэспублікі Парламента Беларусі. Прычына - цяжкапрагназуемая эканамічная сітуацыя ў краіне. Закон аб бюджэце-2000 «усталяваў» ліміт знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь на канец 2000 года ў памеры двух мільярдаў даляраў ЗША. Прырост унутранага дзяржаўнага доўгу адпаведна Закону не можа перавышаць 3,0 працэнта ад валавага ўнутранага прадукта.

Болей як 118-мільярдны дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту Закон прадугледжвае пакрыць праз крэдыты Нацыянальнага банка Беларусі, цераз чыстыя крэдыты міжнародных фінансавых арганізацыяў і крэдыты ўрадаў замежных дзяржаваў; праз крыніцы, атрымліваемыя ад камерцыйных банкаў ды іншых юрыдычных і фізічных асобаў.

Закон усталёўвае шэсць мэтавых бюджэтных фондаў: рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, харчавання і аграрнай навукі; дзяржаўны фонд садзеяння занятасці; рэспубліканскі дарожны фонд; рэспубліканскі фонд аховы прыроды; рэспубліканскі фонд «Энергазберажэнне» і гарантыйны фонд. Апошні - гэта проста дзіва Закона аб бюджэце-2000. Ён усталёўваецца як гарант па выплатах за замежныя крэдыты, узятыя пад гарантыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## 2. Даходы бюджэту-2000 у кантэксце даходаў бюджэту 1996 года і бюджэту 1999 года

У адпаведнасці з Законам пра бюджэт-2000, даходы рэспубліканскага бюджэту плануюцца на суму 1 493 358 252 тысячы рублёў (альбо 1 716 500 000 даляраў ЗША, што лепей, на наш погляд, будзе ўспрымацца чытачамі ПАГОНІ). Структура даходаў-2000 прыблізна такая ж, як і структура даходаў у 1996 і 1999 гадах, аднак параўнальна розныя лічбы (гл. табліцу N1).

Згодна з табліцай N1, у цэлым даходы рэспубліканскага бюджэту за апошнія чатыры гады знізіліся больш чым на адзін мільярд 300 мільёнаў даляраў ЗША, зменшыліся паступленні па падатку на даходы і прыбытак болей як у два разы, па «чарнобыльскаму» падатку - больш чым у чатыры разы. Параўнальнае працэнтнае зніжэнне і па іншых відах даходаў рэспубліканскага бюджэту ў дачыненні да пакачыкаў даходаў бюджэту 1996 года.

У параўнанні з мінулагоднімі паказчыкамі даходаў рэспубліканскага бюджэту, у гэтым годзе плануецца значна павялічыць даходы па падатку на даходы і прыбытак, даходы свабодных эканамічных зонаў, даходы дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў. Лідыруюць планы па павелічэнню прыбытку Нацыянальнага банка: ажно ў чатыры разы (у рублёвым эквіваленце - у 14 разоў). У той жа час плануецца заўважнае змяншэнне паступленняў па акцызах, ад даходаў ад знешняга гандлю і знешнеэканамічных аперацыяў, па падатку на дабаўленую вартасць (!! - і гэта пасля ўсіх павелічэнняў??).

## 3. Расходы бюджэту-2000 у кантэксце расходаў бюджэту 1996 года і бюджэту 1999 года

Структура выдаткаў рэспубліканскага бюджэту за апошнія чатыры гады істотных зменаў не зазнала. Затое змяніліся паказчыкі **(звярніце ўвагу на табліцу N2).**

Заходзячы з пададзеных пакачыкаў дзяржаўных расходаў за апошнія чатыры гады, бачна значнае зніжэнне расходаў (прыблізна на 1,5 мільярда даляраў ЗША). Рэзка скараціліся выдаткі на нацыянальную абарону: прамысловасць, энергетыку і будаўнічы комплекс; на навуку, адукацыю, культуру і мастацтва; на ахову здароўя і фізічную культуру; на сацыяльную палітыку і...сельскую гаспадарку (нябачная дзяржаўная «падтрымка» аграпрамысловага комплексу).

**Табліца N2**

| Від расходаў | У $ЗША па бюджэту-2000 | У $ЗША па бюджэту-1996 | У $ЗША па бюджэту-1999 |
|---|---|---|---|
| Расходы рэспубліканскага бюджэту | 1 852 705 200 | 3 449 476 800 | 1 868 178 300 |
| Дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне | 47 530 600 | 66 830 000 | 47 429 170 |
| Міжнародная дзейнасць | 38 518 390 | 58 000 000 | 49 696 000 |
| Нацыянальная абарона | 84 441 138 | 208 605 520 | 78 563 000 |
| Праваахоўная дзейнасць і забеспячэнне бяспекі | 147 365 510 | 158 000 000 | 125 116 000 |
| Судовая ўлада | 7 045 780 | 17 680 000 | 6 703 500 |
| Прамысловасць, энергетыка і будаўнічы комплекс | 28 350 420 | 76 250 000 | 24 467 520 |
| Навука | 44 114 940 | 69 300 000 | 42 460 000 |
| Сельская гаспадарка | 35 743 670 | 80 052 000 | 58 036 000 |
| Ахова навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў | 46 906 890 | 71 360 000 | 45 345 000 |
| Транспарт, дарожная гаспадарка і сувязь | 2 775 520 | 10 184 000 | 6 758 500 |
| Развіццё рынкавай інфраструктуры | 1 086 200 | - | 2 181 300 |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка | 556 340 | - | 858 580 |
| Папярэджанні і ліквідацыя наступстваў надзвычайных сітуацыяў і стыхійных бедстваў | 117 689 000 | 377 160 800 | 149 729 000 |
| Адукацыя | 109 928 730 | 195 560 300 | 94 104 000 |
| Культура і мастацтва, кінематаграфія | 9 800 000 | 23 975 200 | 9 470 800 |
| Сродкі масавай інфармацыі | 16 981 600 | 58 219 300 | 15 642 600 |
| Ахова здароўя і фізічная культура | 120 000 000 | 280 483 000 | 96 765 000 |
| Сацыяльная палітыка | 121 930 000 | 202 479 600 | 159 325 000 |
| Абслугоўванне дзяржаўнага доўгу | 75 365 000 | 78 295 500 | 144 420 000 |
| Рэзервовы фонд прэзідэнта РБ | 13 974 000 | 29 422 200 | 29 823 000 |
| Правядзенне выбараў і рэферэндумаў | 4 656 000 | 1 596 600 | 4 916 600 |
| Фінансавая дапамога бюджэтам іншых ўзроўняў | 249 133 300 | 537 130 000 | 258 025 500 |
| Выдаткі дзяржаўных мэтавых бюджэтных фондаў | 309 710 000 | - | 219 041 200 |
| Іншыя віды расходаў (прыбліз.) | 200 000 000 | 750 000 000 | 190 000 000 |

У параўнанні з мінулым годам, болей выдаткавана сродкаў на праваахоўную дзейнасць і забеспячэнне бяспекі, на адукацыю, ахову здароўя і фізічную культуру, на ўтрыманне судовай улады. Значнае зніжэнне расходаў на сацыяльную палітыку, абслугоўванне дзяржаўнага доўгу і на...сельскую гаспадарку. Болей як у два разы зменшаны памер рэзервовага фонду прэзідэнта Беларусі.

З дванаццаці да чатырнаццаці мільёнаў даляраў ЗША ўзраслі адлічэнні ў бюджэт Саюза Беларусі і Расейскай Федэрацыі.

## 4. Рэспубліканскі бюджэт і бюджэт Гарадзенскай вобласці ў 2000 годзе

Закон аб бюджэце-2000 усталёўвае фонд фінансавай падтрымкі адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак за кошт адлічэнняў ад падатку на дабаўленую вартасць і падатку на даходы і прыбытак, якія залічваюцца ў даход рэспубліканскага бюджэту, у памеры 28,0 працэнта. Нарматыў датацыі з фонду фінансавай падтрымкі Гарадзенскай вобласці - 21,0 працэнта; субвенцыі на ўтрыманне аб'ектаў сацыяльна-культурнай сферы для Гарадзенскай вобласці - 465 мільёнаў 938 тысяч рублёў; субвенцыі на будаўніцтва аб'ектаў камунальнай уласнасці - 1 909 100 тысяч рублёў для Гарадзенскай вобласці; субсідыі на жыллёвае будаўніцтва ў Гарадзенскай вобласці - 884 мільёны 600 тысяч рублёў.

Закон аб бюджэце-2000 замацоўвае магчымасць усталяваць на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці наступныя падаткі і зборы:

1) зборы з карыстальніка (станцыі, паркоўкі, збор за права гандлю, збор з уладальнікаў сабак ды інш.);

2) падаткі на продаж (піва, віна-гарэлачных, тытунёвых вырабаў, вырабаў з каштоўных металаў ды інш.);

3) зборы за паслугі (гатэляў, рэстаранаў, бараў і кафэ);

4) падатак на рэкламу (5 працэнтаў ад сумы прыбытку, якая засталася ў распараджэнні пасля ўсіх збораў);

5) мэтавыя зборы (транспартныя і на ўтрыманне ды развіццё інфраструктуры горада ці раёна);

6) зборы за прамысловую нарыхтоўку (грыбы, дзікарослыя расліны ды іх часткі, лекі).

Па ўсіх мясцовых падатках і зборах усталяваны 5-працэнтны максімум (ад выручкі, сумы прыбытку).

На заканчэнне адзначым, што бюджэт-2000 па сваіх даходах і выдатках яшчэ досыць далёкі і да 'любімых уладамі бюджэтаў 1991 года, а таксама да бюджэту 1996 года. Аднак сёлетні бюджэт усё ж складзены, распрацаваны лепей, чым бюджэт 1999 года, улічаны высокія тэмпы інфляцыі і лібералізацыя валютнага рынку ў духу збліжэння розных курсаў беларускага рубля. Было б пажадана, каб усталяваны бюджэтам паказчык забяспечанасці аднаго жыхара вобласці (у галінах невытворчай сферы) у памеры 61 630 рублёў быў рэальным.

**Сяргей Міронаў**

# Амерыка плануе пазбавіць рэжым Лукашэнкі ільготаў

**Злучаныя Штаты маюць намер прыпыніць дзейнасць агульнай сістэмы гандлёвых прэферэнцый у адносінах да Беларусі, калі ў бліжэйшыя некалькі тыдняў у краіне не адбудзецца зменаў. Пра гэта абвясціў 14 сакавіка адмысловы дарадца дзяржсакратара ЗША па пытаннях новых незалежных дзяржаваў Рос Уілсан на прэс-канферэнцыі ў Менску па выніках свайго двудзённага візіту ў Беларусь.**

Такі крок будзе азначаць пагаршэнне ўмоваў для беларускага экспарту ў ЗША. Сп. Уілсан растлумачыў, што да разгляду гэтага пытання ўлады Злучаных Штатаў звярнуліся ў сувязі са складанай сітуацыяй ў сферы правоў працоўных у Беларусі. «Але больш шырокая праблема ў тым, што агульная сістэма прэферэнцый была разлічана на падтрымку палітычных і эканамічных рэформаў у Беларусі, якія, аднак, не адбываюцца», — заявіў амерыканскі дыпламат.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам кіраўнік упраўлення эканомікі знешняга гандлю Міністэрства замежных справаў Уладзімір Малевіч заявіў, што магчымы крок ЗША сур'ёзна не адаб'ецца на знешнім гандлі рэспублікі, бо пастаўкі ў Злучаныя Штаты складаюць толькі паўтара працэнта беларускага экспарту. Тым не менш, сп. Малевіч падкрэсліў, што скасаванне агульнай сістэмы прэферэнцый для Беларусі будзе «непрыемным крокам» у псіхалагічным і палітычным плане. «Нам не зусім зразумела, чаму трэба змешваць палітычныя пытанні і эканамічнае супрацоўніцтва», — сказаў прадстаўнік беларускага МЗС.

Сп. Уілсан прызнаў, што ў Злучаных Штатаў даволі абмежаваныя магчымасці для ўздзеяння на Беларусь шляхам эканамічных санкцый. Паводле слоў амерыканскага дыпламата, па заканчэнні свайго візіту ў Беларусь ён наведае Брусель, Лондан і Парыж, каб абмеркаваць з еўрапейскімі калегамі шэраг пытанняў, у ліку якіх — агульная пазіцыя еўрапейскіх краін і ЗША, а таксама магчымыя супольныя крокі ў адносінах да Беларусі. Прадстаўнік дзярждэпартамента заявіў, што не выключае новых санкцый у адносінах да Беларусі, калі ўлады краіны «будуць працягваць рух у негатыўным напрамку».

У той жа час сп. Уілсан падкрэсліў, што ЗША не хацелі б далейшага пагаршэння адносін з Беларуссю. «Адна з мэтаў майго візіту — паспрабаваць пераканаць улады ў тым, што аднаўленне палітычнай і эканамічнай рэформы адпавядае інтарэсам Беларусі», — сказаў ён.

**Аляксей Знаткевіч**

# Пасярэднікам стане горш

**10 сакавіка апублікаваны і часткова ўвайшоў у сілу ўказ прэзідэнта № 117 «Аб некаторых захадах па ўпарадкаванні пасрэдніцкай дзейнасці пры продажу тавараў».**




Згодна з гэтым дакументам, гандлёвая пасрэдніцкая дзейнасць ажыццяўляецца шляхам заключэння дагавораў куплі-продажу і абмену, у тым ліку на падставе дагавораў даручэння або камісіі, а таксама пры наяўнасці спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) на ажыццяўленне аптовага і (або) рознічнага гандлю або спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) на ажыццяўленне аптовага і (або) рознічнага гандлю асобнымі відамі тавараў. Пры гэтым у якасці істотнай умовы дагавора павінна ўказвацца мэта набыцця тавараў: для ўласнай вытворчасці і (або) ужывання; вывазу з краіны, аптовага і (або) рознічнага гандлю; перапрацоўкі на давальніцкіх умовах; пастаўкі для дзяржаўных патрэб або па ўстаноўленых урадам квотах. Выдача спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) на ажыццяўленне аптовага і рознічнага гандлю знаходзіцца ў кампетэнцыі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

Указ таксама вызначае, каму і на якіх умовах могуць ажыццяўляць продаж тавараў іх вытворцы і пасрэднікі. Апошнія, у прыватнасці, маюць права ажыццяўляць продаж (пастаўку) і абмен тавараў арганізацыям і грамадзянам, у тым ліку індывідуальным прадпрымальнікам, для ўласнай вытворчасці і ужывання; іншым пасрэднікам, якія атрымалі ліцэнзію на ажыццяўленне аптовага і рознічнага гандлю; нерэзідэнтам і рэзідэнтам Рэспублікі Беларусь для вывазу гэтых тавараў з краіны.

Дакументам таксама ўстаноўліваецца, у якіх выпадках продаж тавараў арганізацыямі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі можа ажыццяўляцца без атрымання імі ліцэнзіі. Напрыклад, ліцэнзія на ажыццяўленне аптовага гандлю не патрэбна пры продажу на тэрыторыі рэспублікі тавараў, набытых для ўласнай вытворчасці і ўжывання, па цэнах, якія не перавышаюць цану набытага тавару больш чым на 5 працэнтаў.

Указ устанаўлівае віды адказнасці арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў за парушэнне парадку ажыццяўлення гандлёвай пасрэдніцкай дзейнасці. У прыватнасці, занятак гэтым відам дзейнасці без спецыяльнага дазволу (акрамя згаданых вышэй выпадкаў) будзе карацца штрафам у двухразовым памеры атрыманага даходу. Непастаўка тавараў у адпаведнасці з устаноўленымі ўрадам квотамі пры выкананні пакупніком умоваў дагавора куплі-продажу цягне за сабой накладанне штрафу на прадаўца ў памеры да 50 працэнтаў кошту непастаўленых тавараў. Кантроль за выкананнем указа ўскладзены на Камітэт дзяржаўнага кантролю.

Савету Міністраў даручана ў месячны тэрмін вызначыць парадак выдачы спецыяльных дазволаў на ажыццяўленне аптовага гандлю. Указ увайшоў у сілу з 10 сакавіка, за выключэннем норм, якія прадугледжваюць атрыманне ліцэнзіі і некаторыя віды эканамічнай адказнасці. Гэтыя нормы набудуць сілу з 1 ліпеня 2000 года.

**Алег Сакалоў**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14



## ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

## ПРАДАЮ

### АЎТАМАБІЛІ, ЗАПЧАСТКІ, ГАРАЖЫ

Масквіч-412, 1974 г.в. па запчастках. Звяртацца: г.Гродна, вул.Томіна, 10-47б.

Аўтамабіль М-20 «Победа» ў аварыйным стане. Танна. Тэл. у г.Масты 2-27-16 (спытаць Юрыя).

ВАЗ 21-011 на запчасткі. Тэл. 93-68-30 (пасля 15.00).

Рухавік да аўтамабіля «Шэўрале Дзівіжн», 1943 г.в., у непрацоўным стане. Тэл. 5-55-09 (увечары).

Капот да аўтамабіля Форд-Сіера, тэлевізар «Электрон» у добрым стане; усё б/у. Танна. Тэл. 2-65-60.

Генератары да трактароў МТЗ. Тэл. 2-92-08 (пасля 19.00).

Выдатны цагляны гараж (па пр.Касманаўтаў) з добрым бетонным падвалам. Тэрмінова. Тэл. 47-83-12.

Металічны гараж у раёне таксапарка (кошт - 300 у.а.); плафон таксі (кошт - 20 у.а.). Тэл. 2-93-86.

Прычэп-дачу (1996 г.) разам з двума ўмывальнікамі, ацяпляльнай печчу і газавай плітой. Тэл. у Ваўкавыску 2-07-20.

### НЕРУХОМУЮ МАЁМАСЦЬ

Аднапакаёвую кватэру ў Гродне (вул.Гагарына, другі паверх). Варыянт: мяняецца гэтая кватэра і адзін пакой у 2-пакаёўцы ў Менску на аднапакаёўку ў Менску. Тэл. у Гродне 2-37-11, тэл. у Менску 52-34-92.

Дзвюхпакаёвую прыватызаваную кватэру ў г.п.Рось; новы гараж. Тэл. (212) 3-20-27.

Трохпакаёвую кватэру ў Шчучыне з усімі выгодамі. Тэл. 2-15-70 (пасля 18.00).

Трохпакаёвую кватэру ў в/г Слабудка Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, танна; дом у Лінава-2. Тэл. 75-13-97.

Дом у цэнтры г.Гродна, 2-узроўневы, трохпакаёвы: хол, камін, усе выгоды, каля дома - гараж; а таксама дом у вёсцы. Тэл. 47-17-89.

Драўляны дом у в.Касцевічы (два км ад Ваўкавыска). Танна. Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

Трохпакаёвы дом у г.Гродна; дом у в.Алекшыцы. Тэл. 47-17-89.

Дом ашалёваны у в.Крамец Стаўбцоўскага раёна, ёсць гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, сад, 30 сотак зямлі. Тэл. 3-07-60.

Жылы дом у в.Крупіцы Мастоўскага раёна, 6х12, ёсць усе гаспадарчыя пабудовы, вялікі пляц, агарод у 20 м - р.Шчара. Можна пад дачу. Тэл. у Шчучыне 2-44-57.

Дачу ў раёне в.Навумавічы. Тэл. 76-19-29.

Цагляны дом у г.п.Рось, ёсць прыродны газ. Тэрмінова. Тэл. у Ваўкавыску 4-34-75.

Драўляны дом у в.Масты-Левыя (4 км ад г.Масты), ёсць 12 сотак зямлі, гаспадарчыя прыбудовы, недалёка - лес, рака Нёман, гандлёвы цэнтр. Тэл. у г.Масты 2-27-16 (спытаць Юрыя).

### УСЁ РАЗАМ

Японскі тэрмас блакітнага колеру ёмістасцю 2,5 літра. Кошт - 8 мільёнаў. Тэл. 33-46-02.

Лыжы, спальныя мяшкі, палатку. Тэл. 47-35-26.

Канапу-ложак, два крэслы-ложкі. Тэл. 76-19-29.

Асеннія чаравікі (памер 37); зімовыя боты (памер 35), усё б/у. Тэл. 5-92-07 (пасля 18.30)

Вагонку, плінтус, налічнік. Тэл. 72-30-27.

Кухню імпартную, маленькую канапу, пральную машыну, усё б/у; батарэю імпартную (10 рэбраў), падаконнік імпартны на тры акна. Тэл. 31-24-73.

Швачную машыну «Подольск», ЗВЧ-печ «Электроника»; баян «Этюд», кухню «Кристина». Тэл. 31-05-69.

Блок сілкавання («питания») рэгулюемы 1-12 В; канвертар FM (радыё РОКС, СТАЛІЦА»). E-mail: vyi@mail.ru

Кацёл цвёрдага паліва для вадзянога ацяплення, калонку для падачы вады, прыватызаваны дачны ўчастак у вёсцы Яскевічы. Тэл. 76-28-84.

Камп'ютарную прыстаўку «Subor». Тэл. 76-28-84.

Новы фотапавелічальнік «Крокус». Тэл. 99-31-99.

Відэакамеру «Sony CCD-TR 44 NTSC». Танна. Тэл. 7-55-95.

Аўтамагнітолу «CLARION», новую. Тэл. 47-84-80.

Блок-сценку «Міраж», халадзільнік «Снайге», пральную машыну «Мара», каляровы тэлевізар «Гарызонт»; усё б/у. Звяртацца на адрас: пасёлак Паўднёвы, вул.Рагачэўскага, 7-24 (у любы зручны час).

Магнітафон-прыстаўку «Вега-122», узмацняльнік «Вега» ў камплекце; узмацняльнік аўтамабільны, новы, нямецкай вытворчасці; акустычную аўтамабільную сістэму «Pioneer» (кошт - 30 у.а.). Танна. Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Шубу мужчынскую (штучнае футра); фотасветлафільтры, карнізы, дыпламат, кружэлкі, трансфарматар, люстру, усё б/у. Тэл. 33-59-87.

Плашчы мужчынскія (памеры 46-54); паліто жаночае, дэмісезоннае (памер 46-48); чахол да гітары; хрэстаматыю і самавучыцель на шасціструннай гітары; энцыклапедыю БССР (3 тамы, 1980 г.). Тэл. 33-79-95.

АОНы «Русь-25c plus» любых расфарбовак. Дастаўка, устаноўка, гарантыя. E-mail: rus25c@mail.ru

Польскую ілюстраваную кніжку «Пісьма святыя Новага Тэстаменту». Тэл. 33-46-02.

Руска-беларускі слоўнік у трох тамах (5-е выданне, 1994 год) пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі. Тэл. у Менску (017) 258-43-54.

«Святое Евангелле» на рускай мове. Тэл. 33-46-02.

Газавы балон з рэдуктарам, кошт - 5 000 рублёў; падольскую ручную швачную машыну б/у, кошт - 15 000 рублёў. Звяртацца на адрас: пр-т 40 гадоў Перамогі, д.11, кв.19 (спытаць Міхаіла).

Жыгулёўскія пакрышкі з камерамі, шкло задняе для Запарожца; тульскі баян; дарожку дывановую; люстру нямецкай вытворчасці; бра; авальнае люстэрка; восі да УАЗ; вялікі кактус - агара (валодае гаючымі ўласцівасцямі). Тэл. 33-14-27.

Двух парсюкоў жыўцом (па 80 кг кожны). Кошт 1 кг - 1 у.а. Тэрмінова. Тэл. 2-23-07.

Шчанюкоў французскага бульдога. Тэл. 72-63-93.

## КУПЛЮ

Дзіцячае харчаванне «Беллактсоя». Тэл. 47-35-26.

Ламінаваную дрэва-пліту. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Фарбу «сурык». Тэл. 33-14-27.

VW Golf-2, танна; дакументы на іншамарку. Тэл. у Гродне 5-17-72, тэл. у Лідзе 5-32-66.

Аэрограф. Пісаць: 230009, г.Гродна, вул.Друскеніцкая, д.12-2 (Юрыю).

Камп'ютарную прыстаўку на CD дысках «Sony Play Station». Тэл. 76-28-84.

Паперу фармату А2-А4 у пачках і рулонах (танна), канверты. Тэл. 31-30-62.

Каляровы манітор «SVGA», б/у. Танна. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Пыласос б/у - на запчасткі. Тэл. 6-45-74.

Пісьмовы стол, непаліраваны, цёмнага колеру. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Каталог «Панасонік 1998/1999» (тэле-відэа-аўдыётэхніка). Тэл. у Ваўкавыску 4-49-81, 4-49-05.

Значкі дэпутатаў ВС БССР, СССР, Беларусі, кнігу «Птицы Белоруссии». Тэл. 47-19-64.

Куплю наступныя выданні: 1) «Беларуская энцыклапедыя» т.1; 2) «Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі» т.1; 3) «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», т.4; 4) Энцыклапедычны даведнік «Беларусь». На абмен прапаную: 1) Міхась Ткачоў «Замкі і людзі»; 2) Кастусь Тарасаў «Памяць пра легенды»; 3) Генадзь Сагановіч «Невядомая вайна»; 4) кніжкі з серыі «Нашы славутыя землякі». Тэл. 47-24-00.

## ПАСЛУГІ

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Выканаю чарцяжы. Тэл. 72-73-19 (увечары).

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выд. МК да 2004 г. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

Пераклады з польскай мовы на расейскую, беларускую і наадварот. Кошт адной старонкі - 150 тысяч рублёў. Тэл. 5-33-70.

Польская, ангельская, балгарская, беларуская, расейскія мовы: пераклады, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

Кладу печы - якасна і з душою. Тэл. 6-46-32.

Выканаю з дуба ці хваіны плінтус, налічнік і г.д. Тэл. 91-46-86.

Жадаеце пазбавіцца ад зморшчынак за смешны кошт? Тэлефануйце на нумар: 6-57-30.

Доктар С.КАЛЯДА: інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 2004 г., МЗ РБ.

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Дапамагу студэнтам у выкананні кантрольных, курсавых, дыпломных работ па будаўнічых дысцыплінах, уключаючы фізіку, супрамат, тэхнічную і тэарэтычную механіку. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства. Польская мова. Тэл. 2-55-40 (пасля 19.00).

Ангельская мова: пераклады, дапамога студэнтам і школьнікам, шмат рэдкай літаратуры і падручнікаў. Тэл. 72-48-84 (пасля 15.00).

Гітара: урокі класічнай ігры па скарочанай методыцы з кароткім азнаямленнем з асновамі элементаў тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Паслугі ветэрынарнага ўрача. Ліц. 10-264 да 2002 года, выдадзеная Міністэрствам с/г. Тэл. 2-73-48.

## МЯНЯЮ

Трохпакаёвую кватэру (134 кв.м, 5-ы паверх) на такую ж на першым паверху. Магчымы варыянты. Тэл. 2-59-23.

Палову дома у Ваўкавыску на кватэру. Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

Дзве кватэры на добры вялікі дом. Тэл. 2-59-23, 2-27-78.

Дзвюхпакаёвую кааператыўную прыватызаваную кватэру (агульнай плошчы 41,8 кв.м; жылой - 25,9 кв.м) на дзвюхпакаёвую кватэру ў другім раёне. Звяртацца на адрас: вул.Горкага, д.94, кв.29 (пасля 18.00).

Аднапакаёвую кватэру ў г.Алексін Тульскай вобласці на раўнацэнную ў любым горадзе Беларусі. Тэл. (8-212) 3-12-53.

## ЗДЫМУ

Дзвюх-чатырохпакаёвую кватэру новай планіроўкі. Тэл. 31-30-62.

Гарадзенскі цэнтр абароны правоў спажывальніка здыме памяшканне пад офіс ці юрыдычны адрас. Тэл. 31-30-62.

Аднапакаёвую ці дзвюхпакаёвую кватэру ў раёне Грандзіцкага рынка. Кошт 30-40 у.а. Тэл. 72-37-14 (з 10.00 да 17.00).

Аб'яднаная Грамадзянская партыя здыме памяшканне пад офіс (20-50 кв.м) у Гродне. Тэл. 31-30-62.

## РОЗНАЕ

Здаю напракат: прыстаўку «Нота», фотаапарат, прас, кнігі. Звяртацца на адрас: 230001, г.Гродна, да запатрабавання, п/п КН 137530.

Шукаю працу перакладчыка (балгарская, польская мовы) альбо іншую сур'ёзную працу. Тэл. 2-85-77.

Шукаю працу па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Шукаю працу па зборцы мэблі, навесцы карнізаў, набораў для ваннай, люстэркаў, паліцаў, сушылак і г.д. Тэл. 47-32-36.

Шукаю працу па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Шукаю працу масажыста. Тэл. 39-94-46.

Бясплатна ўсім жадаючым вышлю каталог методыкаў карыснай інфармацыі. Дашліце канверт з вашым адрасам + купон б/а. Лісты дасылайце на адрас: 246012, г.Гомель-12, а/с 143.

Калі жадаеце знайсці працу, даступную ўсім, звяртайцеся на адрас: 247250, Гомельская вобл., г.Рагачоў, вул.Кажадуба, д.14, кв.10. Ад Вас - канверт са зваротным адрасам + купон бясплатнай аб'явы.

Шыхтуйся пад сьцягам Нацыянальнай Арміі Беларусі. Толькі зброяй можна здабыць Волю! Жыве Беларусь!!! Воўк

Увага! Хто ведае, дзе знаходзіцца Ян Беларус, асуджаны першага сакавіка за падрыхтоўку да паўстання і спробу звяржэння ўлады, просім звярнуцца на нумар тэлефону ў Менску 222-32-17. Кошт праверaных звестак - ад 500 даляраў.

Калі жадаеце знайсці працу на даму, даходы ад якой складуць ад 200 даляраў і болей, дашліце канверт са зваротным адрасам В.Макавецкаму на адрас: 231900, г.Ваўкавыск, вул.Ажэшкі, д.23.

Патрабуецца тынкоўшчык (штукатур). Тэл. 72-11-09.

Жадаеце паглядзець відэакасеты на беларускай мове: «Адважнае сэрца», «Ісус», «Пяты элемент»? Тады дасылайце лісты на адрас: 220107, г.Менск, а/с 150 альбо тэлефануйце на нумар (017) 213-43-52, 240-78-01.

Брыгада прафесійных грузчыкаў шукае разгрузачна-пагрузачную працу (у любы зручны час). Тэл. 47-32-36, 72-79-18.

Шукаю працу па абіўцы мяккай мэблі. Забяру непатрэбную старую мэблю. Тэл. 44-39-15.

Дапамагу пачаць свой бізнес у хатніх умовах (не распаўсюджванне). Даступна усім! Ад Вас канверт са зваротным адрасам + купон бясплатнай аб'явы. Звяртацца на адрас: 220089, г.Менск-89, а/с 122.

Збіраю архіў незалежнага беларускага друку. Набуду ўсе незарэгістраваныя выданні (на Беларусі, у любых умовах). Буду ўдзячны за супрацоўніцтва. Тэл. (8-0172) 213-49-83, 283-26-62.

Шукаю працу (вышэйшая адукацыя). Валодаю рускай, беларускай, польскай (размоўнай), ангельскай мовамі. Шукаю спонсараў для выдання сваіх празаічных ды вершаваных твораў. Лісты дасылайце на адрас: 230012, г.Гродна, завулак Даватара 10, кв.53 (Андрэю Заянчкоўскаму).

Выстава аўдыё-відэа-кніга-прадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

Шукаю працу на даму. Тэл. 76-39-71.

Час барацьбы, які надышоў сёньня, прымушае кожнага з нас зьвяраць свае справы з трыма вечнымі арыенцірамі: БОГ! БЕЛАРУСЬ! СВАБОДА! Воўк

Выйшаў другі нумар газэты «Голас Краю». Замаўляйце! Прапануем таксама брашуры: «Абэцэда Беларускага Нацыяналізму», «Беларуская партызанка», «Нацыяналізм у сьвеце», «Беларускім героям - народную памяць». Звяртайцеся на адрас: 220037, г.Менск, а/с 49.

Генадзь Пятровіч Кісель спыняе прадпрымальніцкую дзейнасць.

Шаноўныя сябры! Выканаўчае бюро Асамблеі пераехала. З намі можна зьвязацца па тэлефоне-факсе 210-40-75, альбо зьвярнуцца на e-mail: ngo@user.unibel.by

## ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына, 51/158/57, пазнаёміцца з прыстойным мужчынам для стварэння сям'і. Лісты дасылаць на адрас: 231600, г.Масты, да запатрабавання, п/п КН 0248670.

З мэтай стварэння сям'і пазнаёмлюся з сур'ёзным мужчынам, з якім можна дзяліць не толькі радасці, але і клопаты. З МПВ прашу не пісаць. Пра сябе: 33/167. Лісты чакаю на адрас: г.Гродна-24, а/с 25.

Мужчына, 32/172, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносінаў з мэтай стварэння сям'і. Пісаць: 231960, г.п. Свіслач, да запатрабавання, п/п КН 0185762.

Дзве дзяўчынкі шукаюць сброў. Пра сябе: Юлія 15/168 і Наталля 18/164, вясёлыя і добрыя. Абавязкова дасылайце нумар свайго тэлефона. Адкажам усім. Лісты пішыце на адрас: 231767, Гарадзенская вобл., Гарадзенскі раён, п/о Жыдомля, в.Абухавічы, п/с 36.

Шукаю прыстойную жанчыну, якая мае жылую плошчу, для стварэння сям'і. Пра сябе: 33/165, жанаты не быў, нацыянальнасць - беларус, знак Задыяка - Скарпіён. Лісты дасылайце на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п IV-ДР N706368.

Малады чалавек пазнаёміцца з прыстойнай жанчынай (не абавязкова заможнай). Пра сябе: 24 гады, маю вышэйшую адукацыю. Лісты дасылайце на адрас: 230005, г.Гродна-5, п/п КН 0091124.

Прыстойная жанчына пазнаёміцца з добрым, інтэлігентным мужчынам да 52 гадоў, высокага росту, якога духоўныя каштоўнасці цікавяць не менш, чым матэрыяльныя. Тэл. 33-90-05.

Мужчына, 32/170, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносінаў з мэтай стварэння сям'і. Пісаць: 230029, г.Гродна, п/д 2455415.

## ВІНШАВАННІ

Паважаны *Валерый Сцяпанавіч Задаля!* ПАГОНЯ віншуе Вас з Днём народзінаў і зычыць, каб Ваша пяро і надалей было вострым і нязломным! No pasaran!!!

Сардэчна віншую *Ірыну Дзюрдзь* з 18-годдзем! Жадаю быць здаровай, паслухмянай і не забываць сваю сяброўку. Шчасця, удачы і здзяйснення тваіх募раў.

Інэса Х.

## СПАЧУВАННІ

**Таварыства беларускай мовы** смуткуе з прычыны раптоўнай смерці вядомага дзеяча беларускага Адраджэння, змагара за сапраўдную гісторыю Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь **Міколы Ермаловіча**. ТБМ выказвае шчырыя спачуванні яго сваякам, сябрам і блізкім.

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак. Авальная зала.** Выстава з музея гісторыі рэлігіі - «Біблія - кніга кніг». **Сенатарская зала.** «Нават не мроіцца рай» Дзмітрыя Іваноўскага.

**Галерэя «Тызенгаўз» (пл. Тызенгаўза, 4).** Працяг выставы да Дня Святога Валянціна «Галавакружэнне Эрасу» - творы Ляшчынскага, Стратовіча, Якавенкі, Качана, Голуба ды іншых.

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** З 23 сакавіка - выстава Яўгена Станіна і Вадзіма Лагуна пад назвай «Герой», лямец.

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава «Мілы сэрцу куток», жывапіс.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Працяг фотавыставы з Польшчы.

**Галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Цэнтр народнай творчасці (Савецкая,8).** Выстава традыцыйнага рамяства Гарадзеншчыны. Ткацтва.

**Дом мастацкай і тэхнічнай творчасці моладзі (Замкавая,13).** Выстава мастацкай фатаграфіі.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 18 сакавіка - «Храбры кравец»; 19 сакавіка - «Прыгоды Пінокіо». Пачатак спектакляў у 12.00.

**Драмтэатр.** 18, 19 сакавіка - прэм'ера спектакля «Татуіраваная ружа» (хэпі-энд у дзвюх дзеях Тэнесі Уільямса); 22 сакавіка - «Пярсцёнак і ружа»; 23 сакавіка - «Каляровыя сны». Пачатак спектакляў 19.00.



**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

8 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

